ПУЛЬС ДНЯ

## Краіна ж у крызісе...

**ЧЭЛЯБІНСК.** "Краіна знаходзіцца ў глыбокім палітычным і эканамічным крызісе, у ўрада адсутнічае эканамічная палітыка, усё больш губляецца кантроль за сітуацыяй, ва ўсім адчуваецца асуджанасць і безвыходнасць", — аб гэтым заявіў у інтэрв'ю абласной газеце "Челябинский рабочий" лідэр дэпутацкай групы "Ліберальна-дэмакратычны саюз — 12 снежня" ў Дзяржаўнай думе Барыс Фёдараў.

## Казакі, ды не тыя...

**СТАЎРАПАЛЬ.** Казакі, выкрытыя ў спробе нібыта суправаджэння ў Чэчню аўтатранспарту з гуманітарнай дапамогай, а хацелі вывезці з чэчэнскай тэрыторыі баявую зброю з мэтай злачыннага прысваення, ганьбяць казацкі рух, убіваюць клін у адзінства казацкіх радоў. Такую ацэнку даў атаман Стаўрапольскага казацкага войска Віктар Шаркоў выяўленаму стаўрапольскімі амонаўцамі выпадку, калі пры аглядзе вяртаемага з дабрачыннага рэйса казацкага грузавіка былі выцягнуты схаваныя агнямёты, гранатамёты, скрыні з патронамі.

## "Прывітанне, артыст!"

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ.** Ветэранаў артыстычных падраздзяленняў Вялікай Айчыннай вайны сабрала разам свята пад дэвізам "Прывітанне, артыст!", прысвечанае 50-годдзю Перамогі. Сустрэчу калег па мастацтву і па лёсу арганізаваў гарадскі грамадскі тэатр "Родам з блакады". Запрашэнне на свята атрымалі ветэраны Тэатра музкамедыі, франтавых брыгад Ленінградскага фронта, музыканты, лялечнікі, цыркавыя артысты — усе, хто сваім талентам і мужнасцю падтрымліваў баявы дух абаронцаў горада. Больш як сорак ветэранаў на гэтым зборы адзначылі двайны юбілей — 75-годдзе з дня нараджэння і паўстагоддзя творчай дзейнасці.

## Бабий век — 140 лет?

***К неожиданному, если не сказать даже сенсационному выводу пришла группа психологов Гессенского университета (Германия).***

Оказывается, половина женщин в возрасте 60—80 лет могут продолжать жить половой жизнью. Даже дамы старше 80 лет не желают считаться с возрастом — им также не чужды сексуальные впечатления — 10 процентов из них считают, что отказываться от такого удовольствия просто грех.

Конечно, бабушки и прабабушки уже не в состоянии вести такую бурную жизнь, как, скажем, 30-летние. Но, как показало исследование, 60—70-летние, как правило, испытывают сексуальное влечение не реже одного раза в неделю. 80—90-летние респондентки признались, что обычно живут половой жизнью один раз в месяц. Хотя возможны и исключения — ведь и у них тоже может завязаться роман, вспыхнуть внезапная страсть...

Исследователи пришли к выводу, что на сексуальное поведение пожилых дам накладывает отпечаток то, какой была их жизнь в более молодом возрасте. Тот, кто стремился получать больше сексуальных впечатлений в молодости, как правило, не отказывается от них и в старости.

Некоторые "старушки-разбойницы" признались, что только с годами они научились полной мерой получать удовольствие от половой жизни. Если раньше они могли проделывать "это" из спортивного интереса, то теперь — только из чувства глубокого влечения...

## Што нас чакае ў бліжэйшае дзесяцігоддзе?

### Навукова-тэхнічны прагноз

З'явіцца касмічны карабель, што будзе працаваць на энергіі магутнага лазера, устаноўленага на Зямлі. За паўтары гадзіны турысты змогуць абляцець на ім планету. Нью-йоркскі політэхнічны інстытут распрацоўвае праект такога карабля. Распрацоўку лазернага рухавіка фінансуе НАСА. Стэндавыя выпрабаванні намячаюцца на 1995 год.

Знікнуць усе моўныя бар'еры: тэлефоны будуць забяспечаны аўтаматычнымі электроннымі перакладчыкамі.

Робаты з убудаваным камп'ютэрам будуць здольны вадзіць цяжкія грузавікі, выконваць абавязкі сакратароў і кіраваць тэхналагічнымі працэсамі на вытворчасці.

Відэакамеры зменшацца да памеру паштовай маркі, будуць каштаваць менш як 50 долараў і атрымаюць зусім новае выкарыстанне ў прамысловасці.

Бензін і іншыя віды паліва паступова будуць замяняцца вадародам. Падобнага роду даследаванні ўжо праводзяцца ў Канадзе, Японіі і Германіі.

**Па матэрыялах замежнага друку — Уладзімір ЛЕВІН, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў ЗША.**

МІНСК—ПЕКІН

# III. Кітайскі феномен вачыма звычайнага беларуса

**Язэп ЗАБАРАЎСКІ**

У Беларусі баяцца: ах, як бы рэспубліку не скупілі заходнія багацеі. У Кітаі гэтага не баяцца — краіна, як я заўважыў у папярэднім рэпартажы, адкрыта і блізкім суседзям, і далёкаму замежжу. У 1993 годзе прыток замежных капіталаў дасягнуў 26 мільярдаў долараў, што ніжэй толькі за адпаведны паказчык Злучаных Штатаў Амерыкі.

Калі я пацікавіўся вынікамі мінулага года, кітайцы канкрэтнай лічбы не назвалі (яшчэ свае слова не сказалі статысты), але, па папярэдніх падліках, дзяржава павінна была выйсці на 30 мільярдаў долараў. Гучыць?!

Шкада, што з такой вялікай і цікавай краінай, як Кітай, я пазнаёміўся толькі ў 46-гадовым узросце. Шкада, што доўгі час жыў абалваненым дагматычнай ідэалогіяй, зваранай у катле ЦК КПСС альбо ЦК КПБ. Нам да апошніх гадоў убівалі ў галовы, што Кітай, як і мы, савецкія людзі, будуе камунізм. Не ведаю, што ён будаваў некалі, але што ён сёння будуе — ведаю: нармальную дзяржаву, з нармальнымі адносінамі да іншых дзяржаў.

Няма таго тыдня, каб у Пекін не прыязджалі высокія замежныя госці. І не толькі каб палюбавацца, бадай, самай вялікай плошчай у свеце — Цяньаньмэнь, але ў першую чаргу для таго, каб замацаваць кантакты, заключыць з Кітаем новыя кантракты. Вось і прэм'ер-міністр Канады Жан Крэцьен паставіў нядаўна свой подпіс пад кантрактам на суму прыкладна тры мільярды амерыканскіх долараў.

Шырокім ручайкам цячэ замежны капітал у вялікі Кітай. Але як не можа вада ва ўсіх рэках цячы толькі ў адным накірунку, так і Кітай не можа будаваць адносіны з замежжам, толькі выкарыстоўваючы чужы капітал. Палітыка Пекіна будуецца паралельна і на тым, каб уласны капітал больш актыўна дзейнічаў за мяжой. У 120 краінах свету знайшлі работу, напрыклад, кітайскія будаўнікі.

Шчыра кажучы, я не сустракаў муляраў, цесляроў, тынкоўшчыкаў з далёкага Усходу на Беларусі, але ведаю: у краінах СНД іх нямала. Вось і нядаўна вычытаў у адной з газет, што, узводзячы жылы квартал у сталіцы Азербайджана — Баку, кітайскія будаўнікі за кожны тыдзень падымаюцца на адзін паверх. Дзевяць тыдняў — і гмах сустракае навасёлаў. Цуд? Ніякага цуду, іх калегі з Турцыі без усялякіх кранаў за лічаныя тыдні выбудоўваюць пяціпавярховы дом. Сорамна казаць, але ў Мінску, побач з маім жыллём, вось ужо трэці год нашыя будаўнікі не могуць рэканструяваць трохпавярховы аб'ект.

Пад уплывам уражанняў я думаў: калі мець вобразнае ўяўленне, то з чым жа можна параўнаць Кітай? Мабыць, з гадзіннікам. Дзяржава-гадзіннік... Цік-цік, крок, яшчэ крок — і ўсё наперад, наперад. Ведаеце, колькі сталі выплаўляецца штодзённа ў гэтай загадкавай краіне? 240 тысяч тон. А колькі выпампоўваецца нафты? Амаль 400 тысяч тон, што адпаведна ў паўтара і тры разы болей гадавых (!) паказчыкаў 1949 года. Дарэчы, нацыянальны даход кожных пяці дзён цяпер раўняецца гадавому паказчыку 1949 года.

Многіх з чытачоў, напэўна, цікавіць так званы чалавечы фактар. Калі я ўпершыню апынуўся ў цэнтры Пекіна, мне здалося, што ў гэтым горадзе людзей столькі, што палічыць іх проста немагчыма — мора людское. А кітайцы ведаюць: іх у сярэдзіне мінулага года было 1 мільярд 170 мільёнаў. Кожны дзень на свет з'яўляецца да 60 тысяч дзяцей. За год прырост насельніцтва краіны перавышае агульную колькасць жыхароў Аўстраліі.

Хто ведае, можа, у Кітаі было б ужо і два, і тры мільярды чалавек, калі б не адно правіла, якое даўно стала законам: што дазваляецца рабіць — тое можна рабіць, а што забаронена — тое забаронена. Забаронена, напрыклад, акрамя нейкіх выключных выпадкаў, мець у сям'і больш аднаго дзіцяці — і ўсе мужчыны і жанчыны дзейнічаюць пад дыктоўку гэтага закона. Сям'я, якая, крый Божа, парушыла яго, караецца дзяржавай такімі штрафнымі санкцыямі, што муж і жонка ў далейшым спяць у розных пакоях, калі ёсць такія ўмовы. Для сямей, абцяжараных дзецьмі, здавалася б, павінны быць нейкія льготы, а тут наадварот — плаці павышаныя падаткі, большыя грошы за ўтрыманне іх у дзіцячых установах і г.д. Словам, удзень і ўначы зазірае дзяржава ў спальню кожнай кітайскай сям'і.

— Ды што ў спальню? — пажартаваў адзін мой пекінскі знаёмы. — Яна ўжо залезла пад коўдру...

Жарты — жартачкамі, але так яно і ёсць. Як сказаў той жа кітайскі сябра, Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў адобрыў закон, які наогул вызначае, хто з жанчын мае права быць цяжарнай, а хто — не. Думаеце, мужчыны могуць рабіць, што хочуць? Памыляецеся. Гэта ў нас, калі захацеў жаніцца (вядома, дасягнуўшы пэўнага ўзросту), тады і ажаніўся. У Кітаі не кожнаму дазваляецца жаніцца. Ёсць моманты, калі закон дазваляе уступаць у шлюб толькі пасля стэрылізацыі альбо ўзяцця на сябе нейкай іншай адказнасці.

Па-рознаму можна падыходзіць да кастрацыі і іншых аналагічных мер. Але кітайская дзяржава ведае, што робіць — генетычную моц нацыі трэба трымаць на адпаведным узроўні. Ды і перанасяленне краіны пагражальна!

Не толькі загадкавы, але ў многім і дзіўны Кітай. Можа, менавіта ў гэтым і заключаецца яго феномен? Ці ж не прыемна, што працягласць жыцця тут безупынна расце? Калі ў 1950 годзе ў адносінах да мужчын яна раўнялася 53,8 года, жанчын — 50,2, то ў 1993 годзе — адпаведна 72,7 і 76,2 года.

Заўважылі — кітайскія жанчыны ўзялі рэванш, і не толькі па працягласці жыцця. У краіне пастаўлена задача: неабходна, каб да 2000 года ў кожны кіруючы орган усіх ступеняў уваходзіла хаця б адна жанчына, у тым ліку каб і ў Дзяржсавеце была жанчына — намеснік прэм'ера.

Не вельмі даўно інфармацыйнае агенцтва Сіньхуа паведаміла: "Пяць ваенных медыкаў пасля чатырохгадовага вывучэння адкрылі сакрэт даўгалецця уйгурскіх старых, якія пражываюць у Сіньцзян-уйгурскім аўтаномным раёне. Вынік іх даследавання ўжо прайшоў экспертызу спецыялістаў.

Сіньцзян з'яўляецца адным з чатырох раёнаў свету, дзе многа доўгажыхароў. Па колькасці старых ва ўзросце звыш 100 гадоў ён займае першае месца ў Кітаі. Медыцынскія работнікі заўважылі, што некаторыя гармоны ў крыві уйгурскіх доўгажыхароў ва ўзросце больш за 100 гадоў маладзейшыя за адпаведны ўзровень на 25—40 гадоў. Палавы гармон захоўваецца добра і мае здольнасць да нараджэння дзяцей.

Сіньцзянскія доўгажыхары часта выкарыстоўваюць у сваіх рацыёнах свежыя фрукты, кукурузу, бульбу, бабовыя і не любяць вострых харчоў. Большасць з іх не курыць, не п'е, па некалькі разоў у дзень чысціць зубы і з дзяцінства працуе. Сярод іх большая частка хударлявыя..."

Спынім на гэтым цытаванне кітайскага інфармацыйнага агенцтва. І задумаемся. У нас працягласць жыцця не расце, а падае, у далёкім Кітаі — наадварот. Не, дарэмна нам вешалі "лапшу" на вушы цэкоўскія ідэолагі. Фальшывай была іх ідэалогія.

...У Пекіне побач з сусветна вядомай плошчай Цяньаньмэнь — цудоўны парк. Значная частка яго адведзена дзецям. Вось дзве маладыя прыгажуні прывялі групу вясёлых трохгодак. Усе ў аднолькавых, але прыгожых касцюмчыках, боціках... Будучыня Кітая. У яе, мне здаецца, шчаслівы лёс.









❑ ***Від на плошчу Цяньаньмэнь.***

❑ ***Вулічныя гандляры.***

❑ ***Пагаліцца ў Пекіне можна і гэтак.***

❑ ***Вось дык букеты!***

**Фота аўтара.**

**P.S.** ***Пабываць у Кітаі можна з дапамогай мінскай фірмы "Алатан-авіятур" (тэл. 29-32-61 ці 76-84-22).***

## ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ

### Аўторак, 28 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

**14.15** "Максім Гарэцкі. Прысады жыцця". Дак. фільм БТ.
**14.45** "Галасы мінуўшчыны". Адкрыццё фестывалю памяці кампазітара М.К.Агінскага.
**15.35** Тэлебачанне — школе. Янка Купала. "Паўлінка".
**16.05** "Мансарда". Зімняя графіка.
**16.35** "23° 40' на ўсход ад Грынвіча". Перадача з Брэста.
**17.05** Дзедка за рэпку. Парады агароднікам.
**17.30** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.10** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Прамая лінія.
**19.00** Міжнародныя навіны (Бі-бі-сі).
**19.20** Мост.
**19.45** "Маё каханне, мой смутак".
**20.15** Люстэрка Сі-эн-эн.
**20.30** Студыя "Эксклюзіў". "І гэта жыццё?!.."
**20.35** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.40** Студыя "Палітыка".
**21.55** Кліп-канцэрт. Алена Апіна.
**22.05** "Змяніце абставіны". Маст. фільм. 1-я серыя.
**23.05** Эканамікст.
**23.15** Навіны.
**23.35** Пад купалам Сусвету.
**23.45** Міжнародны турнір па фехтаванню памяці Германа Бокуна.

**Канал "Астанкіна"**

**9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 22.50** Навіны.
**14.00** Дзверы ў малы бізнес.
**14.20** Справа і права.
**14.30** Хроніка дзелавога жыцця.
**14.40** Культура і бізнес.
**15.00** Дамісолька.
**15.30** Чароўны свет, ці Сінема.
**16.00** Джэм.
**16.20** "Элен і хлопцы".
**16.50** Свет сёння.
**17.00** Рускі мір.
**17.30** Загадка СБ.
**17.40, 20.30** Надвор'е.
**17.45** "Хто ёсць хто". Ю.Уласаў.
**18.00** Гадзіна пік.
**18.30** "Дзікая Роза".
**18.55** Мы. Аўтарская праграма У.Познера.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** З першых рук.
**20.50** Э.Радзінскі. "Правакатары ў Расіі". Частка 1-я.
**21.40** "Тэрмінатар-2". Маст. фільм (ЗША).
**0.20** Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

**11.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**11.05, 13.20** Дзелавая Расія.
**13.45** "Прыгоды з таннай кватэрай". Маст. фільм серыяла "Эркюль Пуаро".
**15.05** Там-там навіны.
**15.20** Свята кожны дзень.
**15.30** "Пірацкі востраў". Маст. фільм. 3-я серыя.
**16.05** Новая лінія.
**16.45** У гэты дзень...
**16.50** Бясшумныя лідэры.
**17.20** Ніхто не забыты.
**17.25** Тэатральны раз'езд. "У Пятрушкі".
**18.10** L-клуб.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.40** "Сонца няспячых". Маст. фільм.
**22.30** Рака часу.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.55** "Гонка за жыццём". Маст. фільм. 3-я серыя.
**23.45** Парыжскія прэм'еры.

**Санкт-Пецярбург**

**13.30** "Мануэла".
**14.15** "Сямікаракорскі фаянс". Тэлефільм.
**14.50** "Опіум". Маст. фільм.
**16.10** "Казкі-невялічкі". Мультфільм.
**16.25** Чароўная лінія.
**16.40** "Там, дзе жыве Павуціныч".
**16.55** "Дзінапудзі". Мультфільм.
**17.05** "Няхай цвіце скрыпень". Тэлеспектакль. Частка 1-я.
**18.00** Па ўсёй Расіі.
**18.50** Спорт, спорт, спорт...
**19.10** Вялікі фестываль.
**19.25** "Мануэла".
**20.15** "Яўгеній Анегін". 1-я глава. Выконвае С.Юрскі.
**20.55** "Драма ў цырульні". Маст. фільм.
**21.10** Тэлемагазін.
**21.15** Тэлеслужба бяспекі.
**21.45** Спартыўныя навіны.
**22.05** "Пастка". Маст. фільм (Італія). 2-я серыя.
**23.45** Хакей. СКА (Санкт-Пецярбург) — "Крышталь" (Электрасталь).

**8-ы канал**

**18.00** Мультфільм "Галактычны экспрэс".
**18.30** Студыя "ІНТЭКС": "Навіны".
**18.45** Мастацкі фільм "Ад'ютант яго правасхадзіцельства". 2-я серыя.
**20.15** Welcome to.
**20.30** Тэлесерыял "Горац".
**21.30** Студыя "БМ": "Калекцыя".
**21.45** Дак. фільм "Гісторыя чаю "Піквік".
**22.00** Кіно Расіі. Мастацкі фільм "Заложніца".
**23.30** Мультфільм для дарослых.
**23.45** "Погляд з Амерыкі".

**НТБ**

**17.00** "Беверлі-Хілз,90210".
**17.30** "Успомнім тыя гады. 1949."
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Бодыбілдынг.
**19.00** Маст. фільм "Ненармальная".
**21.35** "Паліцыя Маямі. Аддзел нораваў".
**22.30** Часінка.
**23.15** Меламанія: "Брус Спрынгстын".

## Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы будзе пераважаць воблачнае надвор'е, па большай частцы тэрыторыі ападкі, слабы галалёд. На дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — 1—3, Мінску, Гомелі — 1—4, Гродне — 4—6, Брэсце — 5—7 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак: 1-га па большай частцы тэрыторыі, 2-га па поўначы ападкі, у асноўным дажджы, месцамі туман. 1 сакавіка чакаецца парывісты вецер. Тэмпература паветра ўначы: 1-га — ад мінус 2 да плюс 3, 2-га — 0—5, удзень — 3—8, па поўдні — да 11 градусаў цяпла.

## Астранамічны каляндар — 28.02

Узыход і захад сонца: Мінск — 7.01, 17.44; Віцебск — 6.53, 17.32; Магілёў — 6.51, 17.33; Гомель — 6.46, 17.32; Гродна — 7.16, 17.59; Брэст — 7.15, 18.02.

Даўжыня дня ў Мінску — 10 гадзін 43 мінуты.

Маладзік — 1 сакавіка.

Народная газета

Даведкі па тэл.: 68-28-70, 68-25-59.
Рэкламнае бюро — тэл. (0172) 68-28-11, тэл./факс (0172) 68-25-29, 68-25-28.

Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.

Індэкс 63868

Заснавальнік — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.
Адрас: Мінск, вул. К. Маркса, 38.
Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.
Падпісана ў друк у 19.10. Зак. № 293.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". Адрас: Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 N 12

Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ